**СОНЦА:**
Узход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 7.01, 17.44, 10.43;
Віцебск — 6.53, 17.32, 10.39;
Магілёў — 6.51, 17.33, 10.42;
Гомель — 6.46, 17.32, 10.46;
Гродна — 7.46, 17.59, 10.43;
Брэст — 7.15, 18.02, 10.47.

**МЕСЯЦ:**
Апошняя квадра 25 лютага.

# ЗВЯЗДА

29 ЛЮТАГА 1992 г. субота, № 44 (21822)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

## РОЗГАЛАС

### СПАДЗЯВАЙСЯ І ЧАКАЙ...

**Здаецца, на ўласнай скуры зведалі многія суграмадзяне абсалютную правільнасць наступнай ходкай аксіёмы: з дзяржавай гуляць у азартныя гульні — небяспечна. На жаль...**

**Канкрэтна ж справа датычыць аблігацый. Тых самых аблігацый, пра якія раней гаварылася «надзейна, выгадна» і г. д. і якія раптам адмовіліся прымаць (маецца на ўвазе пазыка 1982 года) усе банкі рэспублікі. Прычым без усякіх тлумачэнняў, аб чым яскрава сведчыць шматлікая сярдзітая чытацкая пошта.**

На жаль, у аддзеле каштоўных папер Мінфіна Беларусі адмовіліся даць якую-небудзь інфармацыю наконт таго, што будзе з аблігацыямі. Маўляў, не трэба палохаць людзей.

Ну, па-першае, больш за ўсё палохае адсутнасць усялякай інфармацыі. А па-другое, нашых людзей, напэўна, цяжка ўжо чым-небудзь і здзівіць, і запалохаць: да ўсяго прывучылі...

І ўсё ж паспрабуем унесці хоць нейкую яснасць.

Спачатку засвоім: падобнага казусу з аблігацыямі і трэба было чакаць. Усё вельмі празаічна і проста: у час сённяшняй дзяльбы паміж рэспублікамі ўсяго і ўся, што толькі можна падзяліць, можа, адны гэтыя аблігацыі і аказаліся нікому не патрэбнымі. Бо што яны сабой уяўляюць? Даўгавыя паперы былога Саюза перад людзьмі, неаплачаныя вэксалі. А каму ахвота па гэтых вэксалях плаціць, браць на сябе, па сутнасці, невядома чые даўгі?

Гэта па-першае. Па-другое, тыя ж аблігацыі, калі іх у час гэтай вялікай дзяльбы свабодна прымаць ад усіх запар (а яны, як вядома, не імянныя, а на прад'яўніка), могуць вымыць з рэспублікі ўсю грашовую наяўнасць: падобныя ж меры «абароны» ад іх уведзены і ў суседзяў, значыць, адтуль са сваімі аблігацыямі могуць рушыць да нас. Вось і вырашылі ўвогуле не прымаць. І, зрэшты, лагічна. Як ні сумна гэта прызнаваць.

Праўда, прамень святла ўсё ж ёсць. Як удалося даведацца, праз адзін-два тыдні ва ўрадзе, Мінфіне рэспублікі павінны прыняць канчатковае рашэнне, пры гэтым будзе ўсё зроблена для таго, каб «насельніцтва пацярпела мінімальна» (і за гэта дзякуй). У прыватнасці мяркуецца ўстанавіць пэўную квоту: скажам, выкупляць у людзей па 20 аблігацый. Магчыма, з адзнакай у пашпарце. Прычым, магчыма, гэта будзе проста пагашэнне, а можа гэтыя самыя аблігацыі, з адпаведнай адзнакай, будуць хадзіць ужо толькі ў межах Беларусі. Карацей кажучы, тым, у каго ёсць аблігацыі, не варта спяшацца выкарыстоўваць іх у якасці падпалкі.

Увогуле, як паведамілі ў Мінфіне (там усё ж сёе-тое сказалі), у Беларусі было прададзена аблігацый прыкладна на 180 мільёнаў рублёў. Не такая ўжо вялікая сума, але, сапраўды, колькі можа хлынуць «чужых» аблігацый! З тых жа паўднёвых багатых на іх краёў, што таксама адзначалася маім катэгарычным субяседнікам. Думаецца, найлепшым выйсцем была б дамоўленасць паміж рэспублікамі аб салідарна-ўзгодненым доўгу перад людзьмі і салідарным, з узяццем адпаведнай долі з кожнай рэспублікі, выкупам гэтых самых аблігацый. Не трэба забываць: хутка ў рэспубліках запрацуюць рынкі каштоўных папер, дык ці варта ўжо адразу падрываць у людзей давер да гэтых папер?

З аблігацыямі больш-менш ясна. А як наконт індэксацыі грашовых зберажэнняў, што таксама хвалюе людзей?

Існуюць два меркаванні: індэксаваць зберажэнні (не менш як на 40 «паўлаўскіх» працэнтаў і нават да 2 разоў) і не індэксаваць увогуле. Вядома, з пункту гледжання спажыўца, укладчыка — было б лепш, каб нашы зберажэнні праіндэксавалі. Аднак пры гэтым улічым: усякая індэксацыя цяпер (менавіта цяпер, пры сённяшняй надзвычайнай эканамічнай разладжанасці) непазбежна прывядзе да далейшага нежартоўнага росту цэн. Будзем мець на ўвазе: на спажывецкі рынак і без таго цісне вялікая грашовая маса.

І тым не менш можна параіць чытачам не спяшацца трыбушыць свае ўклады. А раптам праіндэксуюць?

**Іван БАРАНОЎСКІ,**
**аглядальнік «Звязды».**

*Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

## Аб дадатковых мерах па сацыяльнай абароне насельніцтва ў сувязі з лібералізацыяй цэн

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь у снежні 1991 г. прыняў рад папераджальных дзеянняў, накіраваных на стварэнне гарантый сацыяльнай абароны насельніцтва ад негатыўных вынікаў лібералізацыі цэн.

Са студзеня 1992 г. у два і больш разы павышаны заработная плата, пенсіі, стыпендыі, дапамогі сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей. Павялічаны размеры кампенсацыі інвалідам Айчыннай вайны, прымаюцца меры па расшырэнню дапамогі маламаёмным слаям насельніцтва, падзешаўленню харчавання працуючым, студэнтам, навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў і агульнаадукацыйных школ. Ажыццяўляюцца іншыя мерапрыемствы, накіраваныя на матэрыяльную падтрымку жыхароў рэспублікі.

У мэтах узмацнення сацыяльнай абароны насельніцтва рэспублікі ў сувязі з далейшай лібералізацыяй цэн Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Лічыць неабходным павысіць з 1 сакавіка 1992 г. мінімальную заработную плату да 550 рублёў з улікам фарміравага індэкса спажывецкіх цэн на тавары і паслугі, а таксама кампенсацыйных выплат у сувязі са змяненнем рознічных цэн на мяса і масла.

Прасіць Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь зацвердзіць прапануемы размер мінімальнай заработнай платы.

Устанавіць у сувязі з гэтым тарыфную стаўку першага разраду ў размеры 600 рублёў у месяц і пакласці яе ў аснову адзінай тарыфнай сеткі рабочых і служачых народнай гаспадаркі.

2. Міністэрствам і ведамствам, выканкомам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, кіраўнікам прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, фінансуемых з бюджэту, пералічыць размеры ставак і акладаў работнікаў зыходзячы з устаноўленай тарыфнай стаўкі першага разраду і міжразрадных каэфіцыентаў адзінай тарыфнай сеткі.

Дзяржаўнаму камітэту па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва з удзелам Міністэрства фінансаў у тыднёвы тэрмін падрыхтаваць указанні аб парадку пералічэння тарыфных ставак і акладаў работнікаў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, фінансуемых з бюджэту, і давесці іх да міністэрстваў, ведамстваў, аблвыканкомаў і Мінскага гарвыканкома.

Дзяржаўнаму камітэту па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва і Міністэрству фінансаў сумесна з зацікаўленымі ў дзесяцідзённы тэрмін перагледзець існуючыя размеры стыпендый і дапамог зыходзячы з мінімальнай заработнай платы.

Міністэрству сацыяльнага забеспячэння, Міністэрству ўнутраных спраў, Камітэту дзяржаўнай бяспекі, ваеннаму камісарыяту правесці пераразлік пенсій.

3. Рэкамендаваць кіраўнікам гаспадарчаразліковых прадпрыемстваў і арганізацый:

перагледзець стаўкі і аклады работнікаў з улікам гэтай пастановы і ўнесці неабходныя змяненні ў калектыўныя дагаворы. Пры ўстанаўленні акладаў кіраўнікам (генеральны дырэктар, дырэктар, яго намеснікі, галоўны бухгалтар) прадпрыемстваў і арганізацый усіх форм уласнасці (акрамя сумесных) кіравацца дзеючай адзінай тарыфнай сеткай;

часткова кампенсаваць работнікам, якія пражываюць за межамі населенага пункта, у якім знаходзіцца прадпрыемства (арганізацыя), расходы на праезд у грамадскім транспарце (акрамя таксі).

4. Рэкамендаваць кіраўнікам устаноў, фінансуемых з бюджэту:

шырэй выкарыстоўваць прадастаўленыя правы па ўстанаўленню надбавак да заработнай платы, прэміраванню і аказанню матэрыяльнай дапамогі работнікам, накіроўваючы для гэтага сродкі, прадугледжаныя на аплату працы;

прадугледжваць на прэміраванне работнікаў народнай адукацыі, аховы здароўя, культуры, сацыяльнага забеспячэння, фізічнай культуры і спорту, на ўстанаўленне ім надбавак за высокія творчыя і вытворчыя дасягненні ў рабоце, за выкананне асабліва важных (тэрміновых) работ на тэрмін іх правядзення да 5 працэнтаў планавага фонду заработнай платы.

5. Устанавіць, што пры ажыццяўленні ўсіх выплат на аснове сярэдняга заработку апошні вылічваецца з улікам новых службовых акладаў (тарыфных ставак).

Гэты пункт увесці ў дзеянне з 1 студзеня 1992 г.

6. Кампенсаваць з 1 сакавіка 1992 г. расходы па найму жылля ў размеры 50 рублёў у месяц іншагароднім студэнтам вышэйшых, навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў і прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў пры немагчымасці іх пасялення ў інтэрнатах. Асобам, пазбаўленым інтэрнатаў за парушэнне правіл пражывання, гэтыя выплаты не робяцца.

7. Выплачваць студэнтам вышэйшых і навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў за перыяд праходжання вытворчай (педагагічнай) і вучэбнай практыкі, звязанай з выездам з месца размяшчэння навучальнай установы, сутачныя ў размеры 15 рублёў за кожны дзень, уключаючы час знаходжання ў дарозе да месца практыкі і назад (замест 4 рублёў). Выплаты на падзешаўленне харчавання ва ўказаны перыяд не робяцца.

Студэнтам і навучэнцам, прынятым на аплачваемую работу ў перыяд праходжання практыкі па-за размяшчэннем навучальнай установы, сутачныя не выплачваюцца.

8. Устанавіць, што:

пры нараджэнні блізнят выдаецца бясплатна на кожнае дзіця за кошт сродкаў бюджэту камплект дзіцячых рэчаў першай неабходнасці коштам да 2.000 рублёў;

калі ў час водпуску па догляду дзіцяці да дасягнення ім трохгадовага ўзросту нараджаецца наступнае дзіця, то за перыяд прадастаўляемага жанчыне водпуску па цяжарнасці і родах дапамога на першае дзіця выплачваецца ў поўным размеры;

у выпадку перапынення водпуску па догляду дзіцяці ва ўзросце да трох гадоў у сувязі з выхадам на работу на поўны рабочы дзень або на ўмовах няпоўнага рабочага дня (больш палавіны месячнай нормы), а таксама пры афармленні дзіцяці ў дзіцячую дашкольную ўстанову ўстаноўленая дапамога па догляду дзіцяці выплачваецца ў размеры 50 працэнтаў;

жанчыны, якія знаходзяцца ў водпуску па догляду дзіцяці і адначасова працягваюць вучобу ў прафесіянальна-тэхнічных, сярэдніх спецыяльных і

(Заканчэнне на 3-й стар.).

**Хірург без высокай прафесіянальнай падрыхтоўкі—нонсенс, — разважае ўрач НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі Валерый Васільевіч Маісеенка, за плячамі якога больш тысячы па-майстэрску выкананых складаных аперацый. — Сапраўдны прафесіянал праяўляе рашучасць таму, што зрабіць так або іначай падказвае яму інтуіцыя — спрасаваны гадамі вопыт.**

**Пацыенты В. В. Маісеенкі — жанчыны, якія захварэлі ракам малочнай залозы. На сённяшні дзень гэта хвароба значыцца на першым месцы сярод усіх відаў анкалагічных паражэнняў у жанчын.**

**У рэспубліцы ёсць дастатковы навуковы і практычны патэнцыял для лячэння гэтага захворвання. Але, каб рэалізаваць яго ў поўнай меры, Валерый Васільевіч і яго калегі лічаць неабходным стварыць рэспубліканскі мамалагічны цэнтр, дзе можна было б рабіць аперацыі на мікрахірургічным узроўні, праводзіць пратэзаванне і многае іншае, што не толькі захоўвала б жанчынам жыццё, але і вяртала іх у яго нармальную плынь.**

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

## БУДЗЕМ ВУЧЫЦЦА І ПРАЦАВАЦЬ

**ГРОДНА (А. ДУК). Не сакрэт, што многія навучэнцы прафтэхвучылішчаў лічылі сваю вытворчую практыку справай несур'ёзнай. А вось у гродзенскіх гарадскіх ПТВ з'явіўся зараз сапраўдны стымул для работы: за практыку навучэнцы атрымліваюць 75 працэнтаў зароблены грошай, а не ранейшыя пяцьдзесят. Між іншым, тыя, хто будзе працаваць у час практыкі ў будаўнічых брыгадах, увогуле атрымаюць усе сто працэнтаў.**

## БЕЛАРУСКАМУ ДРУКУ ПАТРЭБНА ПАЛІТЫКА ДЗЯРЖАЎНАГА ПРАТЭКЦЫЯНІЗМУ

**Вакол пытання беларускага друку, як ля ложка хворага, зачасцілі кансіліумы. Становішча крытычнае, і трэба нешта рабіць. Пазаўчора на сумесным пасяджэнні дзвюх камісій Вярхоўнага Савета — па культуры і па галоснасці разам з прадстаўнікамі выдавецтваў, перыядычных выданняў і кнігагандлю ў чарговы раз абмяркоўвалася гэта праблема.**

Няспыннае падаражанне і дэфіцыт паперы пагаршаюць, абвастраюць становішча з кожным днём. Сёння сабекошт аднаго метадычнага дапаможніка для настаўніка (прыкладна як і вучнёўскага падручніка) дасягае 61 рубля, а заўтра ён можа быць удвая больш. Зразумела, што падобная цана павінна быць раздзелена пакупніком і дзяржавай, ды толькі доля і роля дзяржаўнай датацыі тут мізарнее. Пошук дадатковай фінансавай крыніцы, на думку прысутных, заканамерна прыводзіць да вядомай у свеце практыкі: спагнання падаткаў і плацяжоў за выдавецкую дзейнасць **на мове іншых дзяржаў** (мяркуем, сэнс перыфразы адносна нашай сітуацыі зразумелы).

Аб'яднанне ж «Белкніга», напрыклад, спадзяецца кампенсаваць свае страты ад залежаў састарэлай грамадска-палітычнай літаратуры за кошт яе былых заказчыкаў. Пытанне народнага дэпутата З. Ломаця «Хто даваў заказ друкаваць Гарбачова па-беларуску?» было рытарычным. А. Гурыновіч, галоўны дырэктар «Белкнігі», назваў канкрэтную суму прэтэнзій кнігагандлю на замарожаныя партыйныя сродкі: 1,5 мільёна рублёў.

Як аказалася, непрадбачлівай раскошай для нас быў не толькі Гарбачоў, але і Ельцын па-беларуску. Паводзіны папяровага расійскага магната, яго вядомы ўказ (расійскую паперу — расійскаму друку) выводзіць са строю нават бартэрны механізм. І цягавітыя нашы трактары могуць аказацца тут бяссільнымі. Папера як хлеб паліграфіі набывае вагу бламкаднага.

Нашым чытачам вядома, з якімі цяжкасцямі, ад выпадку да выпадку, сталі выходзіць рэспубліканскія газеты «Советская Белоруссия», «Белорусская нива», «Знамя юности». Створаны для настаўнікаў метадычны часопіс «Пачатковая школа» з новага года не змог выпусціць яшчэ ні аднаго нумара... Міністр інфармацыі Беларусі Анатоль Бутэвіч паведаміў, што 25 лютага падпісана распараджэнне Савета Міністраў аб раскрыцці стратэгічных запасаў (дзяржрэзерву) паперы і пацвердзіў: ёй у **першую чаргу** будуць забяспечвацца беларускамоўныя выданні.

З залы прагучала прапанова адказаць на «ельцынаўскую блакаду» байкотам маскоўскіх выданняў — «Правды», «Известий» і друкаваць на гэтай паперы свае газеты. Рэакцыя была неадназначнай. Падобнае рашэнне будзе нагадваць «чорны перадзел» не столькі паміж выданнямі, колькі паміж катэгорыямі падпісчыкаў.

Іншая справа, што дзяржаўныя структуры не могуць дзейсна ўплываць на механізм камерцыйнага пераразмеркавання паперы. Выданні тыпу «Анекдоты от Федота», здаецца, здольны вынайсці паперу нават у ваенных умовах. Падручнік побач з эпапеяй «Дом Раманавых» стаяў і стаіць «бедным сваяком». Тыражы некаторых беларускамоўных выданняў упалі да 400—500 экземпляраў... Тым самым паглыбляецца парадаксальная сітуацыя: тая ж беларуская кніга, на якую гандаль дае мінімальныя заяўкі, нярэдка разыходзіцца з паліц за 2 — 3 дні і тут жа становіцца бібліяграфічнай рэдкасцю. (Прыклады, прыведзеныя А. Трусавым: кнігі гісторыкаў М. Ткачова, А. Цітова, Г. Кісялёва...) Відавочна, зменшыць падобныя перагібы тыражнай палітыкі здольна канкрэтна выражаная зацікаўленасць гуманітарных міністэрстваў і грамадскіх арганізацый, навуковых устаноў, бібліятэк і г. д. З другога боку, непазбежны і кампраміс, свайго роду паліграфічны «крок назад»: стварэнне спецыяльнага ратапрынтнага выдавецтва, дзе будуць выходзіць невялікім тыражом навуковыя манаграфіі і іншая неабходная, але вузкаспецыфічная літаратура.

Застаецца заўважыць, што ўсе прапановы ў рэшце рэшт былі падагульнены адной: канкрэтнае заканадаўчае ўрэгуляванне жыццядзейнасці друкаванага слова. Закон аб падатках прыняты ў нас раней Закона аб друку — і гэта сапраўды дае падставу наракаць, што «выпуск кніг у нас зраўняны з выпускам калготак». Рынак бязлітасна замахнуўся і на аўтарскія правы. Па словах пісьменніка Барыса Сачанкі, мы хутка можам апынуцца ў сітуацыі, калі не будзе каму пісаць. Бо аўтарскі ганарар за кніжку значна меншы, чым плата, якую бярэ машыністка за перадрук рукапісу.

І яшчэ. З пэўных крыніц мы маем пэўныя звесткі, што друкаванне практычна бескарысных беларускіх купонаў працягваецца. Расходуюцца фарбы, добрая папера. Сабекошт аднаго купоннага ліста — 1 рубель 37 капеек. Падумалася: гэты ж ліст па фармату якраз старонка падручніка!

**Алена ЦІХАНОВІЧ.**

НА ПАЛІТЫЧНЫМ НЕБАСХІЛЕ

## Пачынаць перамены са згоды

**Адбылася каардынацыйная нарада прыхільнікаў стварэння Партыі народнай згоды. Яе ўдзельнікамі сталі група народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь, прадстаўнікі інтэлігенцыі, рабочых і служачых. На ёй была прынята заява аб мэтах і задачах гэтай арганізацыі. Галоўную з іх, адзначаецца ў ёй, мы бачым у тым, каб спыніць драматычнае развіццё падзей, засцерагчы Беларусь ад эканамічнага краху, сем'і—ад галечы і голаду, народ—ад сацыяльна-палітычных, міжнацыянальных і міжнародных канфліктаў. Бліжэйшая мэта руху — распрацаваць і прапанаваць грамадскасці шляхі выхаду з крызісу, садзейнічаць аб'яднанню ўсіх сіл, усіх слаёў грамадства для сумеснай стваральнай працы.**

Сутнасць цяперашняга крызісу, падкрэсліваецца ў заяве, у змене сацыяльна - эканамічнага ўкладу і дзяржаўнага ладу, у змяненні геапалітычнага становішча Беларусі. Прычыны крызісу сваімі каранямі цягнуцца ў таталітарную бюракратычную сістэму, але да цяперашняй катастрафічнай рысы ён быў даведзены вялікімі памылкамі ў выбары стратэгіі і тактыкі ажыццяўлення аб'ектыўна наспелых рэформ.

Эканамічны крызіс выяўляецца ў прагрэсіруючым спадзе вытворчасці, развале грашова - фінансавай сістэмы, страце стымулаў да працы, некантралюемай прыватызацыі. Гэтыя працэсы вельмі паскорыліся пасля так званай лібералізацыі цэн. Большасць насельніцтва рэспублікі ў лічаныя дні аказалася за мяжой беднасці і не знаходзіць для сябе якіх-небудзь спрыяльных перспектыў на будучае. Падатковы прэс душыць вытворчасць, паралізуе прадпрымальнасць людзей.

У грамадска - палітычнай сферы склалася часовая, вельмі няўстойлівая раўнавага дзвюх сіл: ранейшай апазіцыі і сфарміраванай яшчэ кіраўніцтвам КПБ парламенцкай большасці і ўрадавых органаў. Новыя партыі малалікія і слабыя, не маюць шырокай сацыяльнай базы. Значная, калі не большая, частка насельніцтва з недаверам ставіцца да ўсіх цяпер дзеючых партый і рухаў, утварыўся палітычны вакуум. Паглыбляецца палярызацыя ў грамадстве, расце нездаволенасць людзей чарговым эксперыментам над сабой, што пагражае выліцца ў стыхійны бунт. Аднак і праведнае абурэнне, як сведчыць гісторыя, не заўсёды вядзе да праведных вынікаў. Выйсце— у згодзе ў імя рэформ, але менавіта рэформ, а не імітацыі, і не за кошт збяднення народа.

Структуры адміністрацыйна - размеркавальнай улады, што захаваліся, ва ўмовах бескантрольнасці і палітычнай недакладнасці заняліся рэалізацыяй групавых і асабістых інтарэсаў, нярэдка да іх далучаецца і новае «дэмакратычнае» папаўненне мясцовых органаў улады. Карупцыя пранізала ўвесь апарат упраўлення зверху данізу. У чым жа бачыцца выйсце з тупіка?

У якасці неадкладных мер у пераходны перыяд прадстаўляецца магчымым:

— гарантаваць рэальны пражытачны мінімум усім сацыяльна неабароненым групам грамадзян: пенсіянерам, інвалідам, студэнтам, дзецям,

— гарантаваць на пераходны перыяд усяму насельніцтву сацыяльную абарону ад нястрымнага росту цэн шляхам індэксацыі зарплаты, пенсій і стыпендый, дзяржаўных датацый на сацыяльныя патрэбы, харчаванне, утрыманне дзяцей, камунальныя паслугі;

— выдзеліць участкі зямлі для падсобнай гаспадаркі ўсім жадаючым, прадаставіць кожнаму грамадзяніну права на зямельны ўчастак пад жылы дом;

— рэарганізаваць неадкладна гандаль, пачаўшы са скасавання торгаў і прадастаўлення права магазінам у прыярытэтным парадку заключаць дагаворы на пастаўку тавараў ад вытворцы, мінаючы базы;

— ажыццяўляць раздзяржаўленне і прыватызацыю публічна. Заканадаўча забяспечыць права кожнага грамадзяніна на яго долю нацыянальнага багацця. Расследаваць усе выпадкі прыватызацыі, праведзеныя да прыняцця адпаведнага Закона і рэпрыватызаваць незаконна прысвоеную маёмасць;

— перагледзець падатковае заканадаўства. Прадугледзець рэжым спрыяння вытворцам і прадпрымальнікам, якія забяспечваюць рост аб'ёмаў вытворчасці і напаўненне рынку высакаякаснымі таварамі;

— неадкладна прыступіць да стварэння шырокай сеткі сучасных дробных і сярэдніх прадпрыемстваў па перапрацоўцы і захаванню сельскагаспадарчых прадуктаў, выкарыстаць для гэтага валютныя паступленні дзяржаўных і недзяржаўных прадпрыемстваў, а таксама замежныя інвестыцыі;

— прыцягнуць замежны капітал для аздараўлення эканомікі за кошт продажу неэфектыўна выкарыстоўваемых вытворчых плошчаў і зямельных участкаў;

— запрасіць беларускую эміграцыю да актыўнай гаспадарчай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь, стварыўшы для гэтага належныя ўмовы;

— увесці абавязковую дэкларацыю аб даходах для дзяржаўных служачых, работнікаў гандлю і прадпрымальнікаў;

— заснаваць пры Вярхоўным Савеце з прадстаўнікоў навукі, дзелавых колаў і замежных экспертаў Інавацыйны савет рэспублікі, які аналізаваў бы ўсе прапановы па аздараўленню эканомікі і ўносіў дастойныя з іх на разгляд парламента і ўрада.

Мабілізацыя ўсіх сіл грамадства на аздараўленне эканомікі патрабуе, лічаць прыхільнікі руху, хоць бы часовага мараторыя на палітычныя сваркі. На іх погляд, сёння неабходна заключэнне свайго роду «пакта згоды» паміж усімі палітычнымі сіламі ў імя прыярытэтных і неадкладных мэт. Ён можа быць выпрацаваны на палітычным форуме з удзелам прадстаўнікоў парламенцкіх фракцый, палітычных партый, прафсаюзаў, асацыяцый прадпрымальнікаў, дэлегатаў ад раённых і гарадскіх Саветаў. Удзельнікі форуму павінны прыняць узгодненую праграму выхаду з крызісу і ўзяць на сябе адпаведныя абавязацельствы па яе выкананню.

Высокі маральны і палітычны аўтарытэт павінен быць падмацаваны гатоўнасцю Вярхоўнага Савета выканаць яго ўмовы. Важнейшым сярод іх павінна стаць фарміраванне кааліцыйнага ўрада народнай згоды. Неабходна таксама расшырыць правы мясцовага самакіравання.

Партыя народнай згоды вылучае патрабаванні неадкладнай рэарганізацыі самога Вярхоўнага Савета. З яго саставу павінны выйсці тыя дэпутаты, хто лічыць за лепшае захаваць за сабой кіраўніцкія або гаспадарчыя пасады. Альтэрнатыўнай прапановай можа быць толькі правядзенне рэферэндуму аб даверы парламенту і яго роспуску.

Мы лічым неабходным, гаворыцца далей у заяве, увядзенне пасады Прэзідэнта РБ, які ўзначаліў бы выканаўчую ўладу, з'явіўся б гарантам захавання Канстытуцыі рэспублікі, яе суверэнітэту, правоў і свабод грамадзян, забяспечыў бы паслядоўнае правядзенне рэформ і навядзенне парадку.

Ствараючы партыю, заяўляюць ініцыятары руху, мы арыентуемся на людзей цвярозага розуму, дэмакратычна настроеных. Мы звяртаемся да ўсіх тых, хто, будучы ў КПБ, шукаў шляхі яе пераўтварэння ў партыю прагрэсіўных рэформ і быў жорстка расчараваны лідэрамі гэтай партыі. Мы звяртаемся да тых, хто ніколі не быў у палітычных арганізацыях, але сёння гатовы да грамадскай актыўнасці. Мы звяртаемся да моладзі, чыя свядомасць свабодная ад стэрэатыпаў мінулых гадоў. Наша партыя не ставіць пытання аб мінулых палітычных поглядах і перакананнях. Галоўнае — гэта жаданне быць карысным сваёй Айчыне, народу.

Мы разлічваем на падтрымку рабочага і селяніна, інтэлігента і чыноўніка, патрыятычна настроенага прадпрымальніка, усіх, хто жадае жыць добра і багата, але сваёй працай, не за кошт іншых. Мы спадзяёмся стварыць сапраўдную партыю цэнтра, партыю сацыяльнай і нацыянальнай згоды, партыю грамадзянскага міру.

Распрацоўваючы сваю праграму дзеянняў, партыя зыходзіць з асноўных каштоўнасцей чалавечай цывілізацыі: правоў і свабод чалавека, цывільнага грамадства і прававой дзяржавы, адмовы ад насілля ў палітыцы і міжнародных адносінах.

Партыя даражыць гістарычнымі традыцыямі беларускага народа, абапіраецца на лепшыя рысы яго нацыянальнага характару: патрыятызм, працалюбства, гатоўнасць да ўзаемадапамогі, непрыняцце насілля, нацыянальнай і сацыяльнай варожасці, добразычлівасць і павагу адзін да аднаго. Мы будзем дабівацца спрыяльных умоў для ўсебаковага развіцця беларускай культуры і нацыянальных культур іншых народаў рэспублікі.

Аўтары заявы выказваюць упэўненасць, што сумеснымі намаганнямі грамадзян Беларусі — інтэлігенцыі, рабочых, сялян, чыноўнікаў, прадпрымальнікаў — дзяржава можа ў кароткія тэрміны выйсці з эканамічнага і палітычнага крызісу.

**Кантактныя тэлефоны: 24-51-78, 29-68-21.**

**АРГКАМІТЭТ.**

## ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

**Згодна з данымі, атрыманымі ў Міністэрстве сувязі рэспублікі, колькасць нашых падпісчыкаў пастаянна расце. З сакавіка на газету падпісалася яшчэ 720 чалавек.**

**Нас радуе прыхільнасць чытачоў да нашай газеты. Аднак размаўляць на роднай мове з яе старонак ва ўмовах рынку ўсё цяжэй і цяжэй. Выдаткі на выданне растуць з кожным днём, і толькі дзякуючы вам, шаноўныя чытачы, мы можам захаваць «Звязду».**

**Мы спадзяёмся, што вы не толькі па-сапраўднаму ацэніце нашы намаганні ў паляпшэнні яе зместу, але таксама зразумееце перамены ў кошце, якія адбываюцца не па нашай віне. Нагадваем, што, пачынаючы з 1 сакавіка, падпіска на «Звязду» каштуе: на год 124 рублі 80 капеек, на месяц 10 рублёў 40 капеек.**

**Рэдакцыя.**

## ПАКУЛЬ ГРОМ НЕ ГРЫМНЕ

ПІНСК **(У. Равіцкі).** Тут ужо зарэгістраваны першыя два дзесяткі беспрацоўных. Трывожныя сімптомы набліжэння грознай спадарожніцы рыначнай эканомікі ўжо адчуваюцца на прамысловых прадпрыемствах. У сувязі са скарачэннем паставак сыравіны і матэрыялаў рэзка скарачаецца вытворчасць, а гэта выкліча і скарачэнні занятых работнікаў.

Аднак штосьці не відаць вялікай заклапочанасці з гэтай прычыны. У прыватнасці, пінская служба занятасці насельніцтва яўна не гатова да крутых часоў. Яна нават не павялічыла свае штаты. Хоць на развіццё яе ў Пінску ўжо сабрана 3 млн. рублёў. І справа не толькі ў штатах. Трэба якасна змяніць усю арганізацыю працаўладкавання людзей, выпрацаваць дакладны механізм дзеянняў ва ўмовах масавага беспрацоўя. Але аб такім механізме калі хто і думае, то, відаць, у глыбокай тайне нават ад гарадскіх улад.

## ЧАРЗЕ КАНЦА НЕ ВІДАЦЬ

**МІНСК. 143 тысячы сем'яў стаяць сёння ў чарзе на жыллё ў беларускай сталіцы. Зараз «атаварваюцца» тыя, хто некалі рабіў віды на год... 1980-ы. Пры сённяшняй норме пастаноўкі на ўлік — 7 кв. метраў на чалавека — па самых аптымальных прагнозах, чарга расцягнецца яшчэ на 15—16 гадоў.**

